*На добрую памяць ад аўтара*

## МІХАСЬКА – СУСЕД ГЕНЕРАЛА

Яшчэ адзін дом-прыгажун вырас у нашым горадзе. Цагляны, шматпавярховы, з вялікі вокнамі! Навасёлы рады: будуць жыць амаль у самым цэнтры сталіцы.

Радуецца і Міхаська: на адной лесвічнай пляцоўцы з ім жыве генерал. Гэта дзякуючы яму, генералу, Міхаська апынуўся ў цэнтры ўвагі хлапчукоў усяго двара.

Хлапчукі падыходзяць да Міхаські, па чарзе вітаюцца з ім за руку, цікавяцца:

–Дома генерал?

– Не прыехаў яшчэ, – важна адказвае Міхаська, нібыта і на самай справе ведае, куды паехаў генерал, у колькі гадзін вернецца. Можна нават падумаць, што Міхаська ў яго ад'ютант.

– Сёння на "Волзе" паехаў?

Міхаська спаў, калі па генерала прыехала легкавушка. Аднак з выглядам дасведчанага чалавека адказвае:

– На "Волзе"!

Хлапчукі пэўны час маўчаць.

Байчэйшы, Петрык, нарэшце пытае:

– А ці праўда, Міхаська, што твой сусед з пісталета страляе, як алімпійскі чэмпіён?

– Генарал усё ўмее рабіць, – кажа Міхаська.– Ён нават дывізію можа ў бой павесці, во!

– А роту? – дапытваецца Петрык.

– І роту, – адказвае Міхаська, а сам думае: “Што больш – дывізія ці рота?”

Хлапчукі, як тыя вераб’і, доўга шчабяталі перад акном генеральскай кватэры. Іх усё цікавіла: і што на службе робіць генерал, і як ён жыве. Рашылі ў акно заглянуць.

Акно высока ад зямлі, так проста не заглянеш.

Петрык прыгнуўся, загадаў самаму маленькаму хлапчуку:

– Станавіся, Сяргейка, мне на спіну. Ты лёгкі.

Сяргейка спрытна залез на Петрыкаву спіну, прыпаў да шыбіны.

– Кажы, што бачыш, – прыспешвалі Сяргейку.– Ці вочы ад усяго разбягаюцца? Там ёсць на што паглядзець?

Сяргейка пачаў пералічваць:

– Стол стаіць. У куце ложак. Яшчэ бачу канапу, тры крэслы…

Не злазячы з Петрыкавай спіны, Сяргейка з дакорам глянуў на Міхаську:

– А ты казаў: жыве – цар! Усё, я і ў нас.

Ён саскочыў на зямлю, заявіў:

– Хлус ты, Міхаська, хоць і сусед генералаў.

Хлапчукі таксама накінуліся на Міхаську:

– А яшчэ хваліўся, што за руку з генералам вітаешся.

– Дома ў яго бываеш, чай п’еш.

–Эх ты!

І хлапчукі разбрыліся па двары.

…Міхаська пачуў, як за спіной зарыпела тармазамі легкавушка. Ён азірнуўся. З машыны выйшаў генерал. Але чамусьці ў цывільным адзенні, пры гальштуку, на галаве – капялюш. “Калі ў цывільным, дык такі, як усе, – здзівіўся Міхаська. – Як і мой тата”.

І яшчэ Міхаську было прыкра, што хлапчукі назвалі яго хлусам. Ён жа сапраўды думаў, што генералы не такія, як усе. І вось што выйшла з гэтым суседствам…

Пачакайце – Міхаська, можа, яшчэ будзе чай піць з генералам. Пэўна, будзе, раз яны – суседзі.

## САКРАТАРКА

Дзынкнуў тэлефон. Алеся адразу ж падбегла да палічкі, на якой ён стаіць, зняла трубку, спытала:

– Алё! Вам каго?

– Мне, Алеська, пакліч, калі ласка, бабулю. Але спярша – добрай раніцы табе!

– Добрай раніцы, – адказвае дзяўчынка і кліча бабулю.

Бабуля размаўляе па тэлефоне, а малая гуляе з лялькамі.

Потым зноў зазваніў тэлефон. Алеся зняла трубку, паслухала і паўшэптам сказала:

– Бабулю паклікаць не магу: яна спіць. На канапе. А тата з мамай на працы…

І паклала трубку.

Бабуля ўсміхнулася, узнялася з канапы, падыйшла да Алесі, лёгенька абняла яе за плечы:

– Сакратарка ты мая. Пайшлі, пайшлі палуднаваць. Пачастую я цябе варэнікамі: пакуль ты дзяжурыла каля тэлефона, я і прыгатавала іх. Без цябе аніяк не справілася б.

## НЕПАСЛУХМЯНАЕ МЫЛА

Максімка мыецца ў ваннай . Адзін. Як дарослы. Але больш займаецца ён тым, што ловіць мыла, якое зусім не слухаецца – выслізвае з рук, нібы забаўляецца з хлопчыкам:

– А-га, паспрабуй злаві! А вось і не зловіш!

Максімка такіх жартачкаў не разумее, на вочках выкругліліся слязінкі. Неўзабаве ён пачынае румзаць. Падыходзіць мама: бяда ж! Яна глядзіць на малога і нічога не разумее.

– Што з табой, сынку? – пытае.

– Мыла… не слухаецца, – паказвае хлопчык на кавалачак мыла, які плавае на вадзе.

Ён апускае руку ў ваду і…ловіць мыла! Максімка моцна заціскае яго ў кулачку і шчасліва ўсміхаецца: калі мама побач, то і мыла слухаецца.

## КАНФУЗ

Максімкаў дзед жыве ў вёсцы. Ранняй вясной, калі яшчэ не было работы на агародзе, бабуля сказала яму:

– З'ездзі ў Гомель, унуку яблыкаў і журавін завязі. А я ўжо сама тут карову і парсючка дагледжу.

Дзед прывёз поўную торбу розных вясковых ласункаў. Як толькі данёс? У яго ж, у дзеда, няма адной рукі – з вайны вярнуўся з пустым рукавом.

Усе абрадаваліся дарагому госцю. А найбольш – Максімка.

Назаўтра тата з мамай пайшлі на працу, а яны, малы і стары, засталіся ўдвух. Чыталі казкі, глядзелі кінафільм. Максімка і заснуў перад тэлевізарам у крэсле, а дзед патупаў на кухню. «Пакуль унучак спіць, – падумаў, – памыю посуд. Прачнецца ён, а талеркі і лыжкі будуць чысценькія – можна і абедаць».

Нязручна мыць посуд адной рукой, але дзед сяк-так прылаўчыўся. І раптам адна талерка

выслізнула з рукі і разбілася. Прысеў дзед на табурэцік, шкадуе: такая прыгожая талерка была.

Тут Максімка прачнуўся, прыбег на кухню, суцяшае:

– Не бядуй, дзядуля. Тата казаў калі б’ецца посуд, то гэта на шчасце.

– Шчасця, канечне, у тым мала, што я талерку разбіў, але ж і бедаваць надта не трэба, – пагадзіўся дзед і пагладзіў унука па галаве. – Няёмка мне, канфуз атрымаўся.

Максімка паднёс да ракавіны табурэцік, ускараскаўся на яго і пачаў мыць посуд.

– А ты, дзядуля, пасядзі, – сказаў ён. – Табе цяжка. Каб у цябе было дзве рукі, як у мяне, тады б і ты мне дапамог... А такі канфуз з кожным можа здарыцца.

Дзед назіраў за унукам і суцешна ўсміхаўся.

## ПІСЬМО

Мікола захварэў. І так сур’ёзна, што палажылі яго ў бальніцу: з хваробай не жартуюць. Ляжыць хлопчык у пакойчыку пад бялюткай коўдрай, сяброў успамінае і дужа шкадуе, што не ходзіць, як яны, у школу.

Думаў, думаў пра аднакласнікаў Мікола і заснуў. А ў гэты самы час і сябры прыбеглі праведаць яго.

– Нельга будзіць, – строга сказала медсястра. – Няхай больш спіць, тады хутчэй паправіцца.

Прыціхлі хлопчыкі і дзяўчынкі. Разважаюць: Новы ж год заўтра, павіншаваць трэба Міколку. А як? Паштоўкі няма.

І яны прыдумалі.

Прачнуўся хлопчык, падышоў да акна, і на ягоным твары ўспыхнула шчаслівая ўсмешка. На снезе было вытаптана: «Міколка! З Новым годам! Папраўляйся! Чакаем!»

І хоць подпісу пад гэтым незвычайным пісьмом не было, хлопчык здагадаўся, хто павіншаваў яго са святам.

## ЗАДЗІРЫ

Юраська сядзеў у пакоі і назіраў, як на двары, пад клёнікам, разгараецца бойка: два чубаценькія вераб'і счапіліся, ажно пер'е ляціць.

«Можа, дурэюць? – падумаў хлопчык. – Але быццам не, не падобна. Сапраўдная бойка».

Юраська ніколі не бачыў, каб так біліся вераб'і. Пэўні – дык гэта іншая справа. Нездарма ў народзе кажуць: «Счапіліся, як пеўні ўсё роўна».

«Што ж яны не падзялілі?» – зацікавіўся Юраська і яшчэ пільней пачаў прыглядацца да

задзіраў. “Ага, вось з-за чаго бойка ўсчалася! – зразумеў хлопчык.– Адзін верабей знайшоў недзе хлебную скарыначку, а другі, відаць, дужэйшы і больш нахабны, рашыў адабраць”.

Вераб’і заўзята дзяўбалі адзін аднаго.

«Не, самі яны не паміраццa, – упэўніўся Юраська. – Трэба ім дапамагчы».

Ён адчыніў кухонную шафку, набраў поўную жменю круп і сыпануў праз акно задзірам. Вераб’і мігам разляцеліся ў бакі, потым агледзеліся, пасямлелі, сышліся і дружна пачалі сілкавацца. Ды так, што адно хвосцікі ўпрысядкі захадзілі.

Юраська глядзеў на іх і радаваўся: ён не толькі памірыў птушак, а і крыху дапамог ім у такую халодную зіму. “Добра было б кармашку зрабіць”, – падумаў хлопчык і вырашыў, што пра гэта пагаворыць з тамам увечары.

## ДЫКТАНТ

Алесь дрэнна піша дыктанты: памылка на памылцы. Каб хлопчык трохі падцягнуўся, настаўніца параіла часцей пісаць дыктанты дома.

Вечарам Алесь прынёс тату падручнік і сказаў:

– Дыктуй, тата. Буду вучыцца пісаць без памылак.

Тата ахвотна дыктуе, Алесь старанна піша. І так некалькі дзён запар. А потым тата адклаў падручнік убок.

– Садзіся, сынок, пішы,– сказаў ён.– Сёння буду дыктаваць на памяць.

Алесь выводзіць сказ за сказам: «На дварэ адліга. Радасна свеціць сонейка. На вуліцы з'явіліся лужыны. Я не магу прайсці міма, абавязкова ўлезу ў ваду...»

Алесь глянуў на тату:

– Ты пра каго гэта так?

– Пішы, сынок, пішы...

Алесь працягвае пісаць: « Прыйдзеш дадому ўвесь брудны, мокры –вось маці і работа. А яна хацела адпачыць...»

–Дрэнны дыктант ты, тата, прыдумаў, – пачырванеў да вушэй Алесь.

– Нічога я не прыдумаў, – сказаў тата.

Вечарам, зрабіўшы ўрокі, Алесь вырашыў, што заўтра ён напіша зусім іншы дыктант.

## КАПРЫЗА

У нядзелю ўся наша сям'я збіралася ў госці да дзядзькі Мішы – на дзень нараджэння.

Мы прыбраліся ў свае святочныя касцюмы. Назбіралі ў гародчыку прыгожы букет кветак.

– Дзеці, – паклікала нас маці, – ідзіце абедаць.

– А мы ў дзядзькі Мішы паабедаем, – сказала Маня.

– Да дзядзькі Мішы мы пойдзем аж пад вечар. Так што сядайце за стол.

– А што мы будзем есці? – спытаў Паўлік.

– Торт? – паглядзела на маму сястрычка.

– Не, я прыгатавала варэнікі.

Наша мама гатуе вельмі смачныя варэнікі – з тварагом, салодкія. Мы ўзялі па адным, а Паўлік зірнуў на стол і насупіўся.

– Бяры еш, сынок, – сказала мама.

– Не хачу варэнікаў, хачу халвы.

– Няма ўжо, скончылася,– адказала мама.

– Двай схаджу куплю.

Мама дала Паўліку грошы, і ён пайшоў. Але неўзабаве вярнуўся з пустымі рукамі.

– Сёння ж выхадны ў краме. Заўтра куплю…

– Не, – выйшла з кухні мама,– давай грошы, бо заўтра ты ўжо будзеш абедаць разам з намі.

– А дзе мае варэнікі? – зірнуў хлопчык на пустую талерку.

– З’елі Маня з Мішам. А ты дакапрызіўся, сынок.

Паўлік захлімкаў:

– Я больш не буду так… Ніколі…

## ЯК СОН ЗНАЙШЛІ

Дзед Васіль ўстаў рана, паглядзеў на ўнука, паправіў коўдру, якая спаўзла на падлогу.

– Спі, унучак. А мой сон недзе згубіўся...

Максімка пачуў дзедавы словы, працёр вочы кулачком:

– Дзядуля, а дзе твой сон згубіўся?

– Дзе, пытаеш? Я і сам не ведаю. Ляжу, а не спіцца, усё ўспамінаю розныя здарэнні, перабіраю ў памяці. А ты чаму не спіш? – хітравата прыплюснуў вочы дзед.

– Не ведаю, – пакруціў галавой Максімка, а потым прапанаваў: – А давай сёння твой сон пашукаем?

– Добра, – згадзіўся дзядуля.

Яны дапамаглі бабулі накарміць парсючка, курэй, сабаку, а пасля і самі паснедалі.

– Ну што ж, пайшлі, унучак, мой сон шукаць, – першы ўзняўся з-за стала дзед Васіль.

Яны выйшлі на двор, узялі кош і пакіравалі на вуліцу. Шырокая вясковая вуліца вывела іх на вузенькую сцежку, якая бегла полем, а потым звярнула ў лес. Там спявалі птушкі. Павольна, быццам на парашуціках, падалі долу першыя жоўтыя лісточкі.

– Дзядуля, глядзі, што я знайшоў! – пахваліўся Максімка і паказаў баравічок.

Грыбоў назбіралі поўны кошык. Дадому лясныя дарункі нёс дзед Васіль. Максімка толькі зрэдку браўся за дужку, падсабляў. Прытупалі ў вёску, адчулі, што натаміліся. Ды вось цікава: абодва, здаецца, зусім забыліся, чаго хадзілі ў лес. Здаецца – сон шукаць, а назбіралі грыбоў. Селі на лавачку каля хаты, адпачываюць Дзед сядзеў-сядзеў ды неўпрыкмет і вочы заплюшчыў – заснуў. Выглянула з веснічак бабуля, убачыла поўны кошык грыбоў, далонямі пляснула ад здзіўлення.

– Цішэй, бабуля, – шэптам папрасіў Максімка. – Дзед сон знайшоў!

## П А М О Ч Н І Ц А

Калі Ала прыбегла са школы, маці якраз наводзіла ў пакоях парадак. Сёння — субота, і ў гэты дзень у доме заўсёды, як кажа тата, генеральная ўборка.

Ала пахвалілася маме, што прынесла выдатную адзнаку, і сказала:

— Лісточкі кветак я памыю, а потым вазоны вадзічкай палью...

Даглядаць кветкі — любімы занятак дзяўчынкі. А ў пакоі мноства кветак. І ўсе прыгожыя-прыгожыя.

— Мама, што яшчэ мне рабіць? — спытала Ала, калі паліла кветкі.

У пакоі пасвятлела, стала больш утульна. Гэта таму, што кветкі нібы ажылі, расправілі лісточкі.

— Што яшчэ рабіць? — перапытала маці.— Пратры шкло ў вокнах. Справішся?

Ала ўзялася за работу. Старалася. І выходзіла ў яе, як у сапраўднай гаспадыні. Шыбы адно папісквалі: піш-у, піш-у...

Потым дзяўчынка адышла ад акна падалей, каб паглядзець, ці ёсць на шкле яшчэ плямкі. Зірнула — і здзівілася...

Пытае ў маці:

—А дзе шкло? Я ж толькі яго працірала...

Маці ўсміхнулася і абняла Алу.

— Памочніца ты мая залатая! Шкло нікуды не падзелася. На сваім месцы яно. Гэта ты дужа добра справілася са сваёй работай. Плямак няма — вось і шкла не відаць...

## НЕ ХАЦЕЛАСЯ Ў САДЗІК

– Уставай, сынку, у садзік пара ісці, – кранула мама за плячо Юраську. Хлопчык пацягнуўся, пазяхнуў, а калі мама схавалася за дзвярыма, схаваўся пад коўдрай.

Неўзабаве мама зноў заглянула ў спальню, сказала больш строга:

– Юраська, спознішся!

Трэба ўставаць. Хлопчык споўз на падлогу.

– Рабі, рабі фіззарадку! – паспяшае мама.

Раз, два – і ўсё, зроблена.

– Мыцца будзеш, ці, можа, не? – з іроніяй глядзіць на малога мама.

– Буду…

Юраська патупаў да мыцельніка.

Не пазнаць сёння Юраську. Сам на сябе не падобны.

– Ці не захварэў ты, сынку? – насцярожылася мама.

– Захварэў, – схлусіў хлопчык.

А яму проста не хацелася ў садзік. І сам не ведаў – чаму.

Тут паказаўся тата.

– Сёння ў садзік салдаты прыедуць, – прамовіў тата.

– Праўда? – засвяціліся вочы ў Юраські.

І ён хуценька пачаў апранацца.

– Я ўжо сабраўся…

– Ты хоць мяне пачакай, – кажа тата і ўсміхаецца разам з мамай.

**Змест**



Месца выхаду: Мазыр
Дата выхаду: 2001
Рэдактар В.Ардашава
Мазырская узбуйненая друкарня
Памеры: 28 с.

Васіль Ткачоў часта выступае перад сваімі чытачамі. У кнізе “Канфуз” сабраны лепшыя гумарыстычныя творы пісьменніка – на памяць чытачам аб такіх сустрэчах.